*Магілеўскі*

# ВЫБАР

№ 3 (29)
Жнівень
2014 г.

Абласная Дэмакратычная Трыбуна

## ЧЫТАЦЬ І ДУМАЦЬ

### У Магілёўскай вобласці паболела альтэрнатыўных крыніц інфармацыі

На Магілёўшчыне напрыканцы ліпеня аднавілі свой выхад шэраг незалежных малакакладных газет і інфармацыйных бюлетэняў .

Пасля больш чым гадавога перапынку зноў пачала выдавацца газета **"Магілёўскі Выбар"**. Выданне пазіцыянуе сябе як абласная дэмакратычная трыбуна, у якой сваё асабістае меркаванне па розных пытаннях можа выказаць любы неабыякавы жыхар Магілёўскай вобласці. У мінулым годзе журналісты менавіта гэтага выдання з дапамогай праваабаронцаў здолелі даказаць у судзе, што распаўсюд маланакладных выданняў не супярэчыць дзеючаму заканадаўству Рэспублікі Беларусь.




Таксама пасля перапынку аднавілі свой выхад маланакладныя газеты **"Клімавіцкая інфа-панарама"**, **"Паходня"**, **"Шклоў-інфо"**, якія распаўсюджваюцца адпаведна на тэрыторыі Клімавіцкага, Бялыніцкага і Шклоўскага раёнаў Магілёўскай вобласці.

Усе гэтыя газеты выдаюцца накладам 299 асобнікаў, распаўсюджваюцца бясплатна, і дзякуючы гэтаму ім не патрабуецца дзяржаўная рэгістрацыя.

Неабходна адзначыць, што ў Магілёўскай вобласці існуе не вельмі шмат друкаваных крыніц інфармацыі, якія даюць альтэрнатыўны пункт гледжання на падзеі, якія адбываюцца ў рэгіёне і нашай краіне. Між тым, далёка не ўсе людзі ў рэгіёнах карыстаюцца інтэрнэтам, наадварот, колькасць яго карыстальнікаў за мінулы год на Магілёўшчыне нават знізілася: па дадзеных партала tut.by у снежні 2013 г. ў Магілёўскай вобласці інтэрнэтам карысталіся на 11% менш, чым у снежні 2012 г.

Адной з асноўных тэмаў, якая будзе асвятляцца ў незалежных выданнях, стане тэма карупцыі ў дзяржаўных установах, арганізацыях і на прадпрыемствах Магілёўскай вобласці, а таксама інфармаванне насельніцтва рэгіёнаў аб негатыўных працэсах, якія адбываюцца ў нашай краіне пад выглядам "рэфармавання" сельскай гаспадаркі. Як і раней, будуць змяшчацца матэрыялы пра парушэнне правоў працоўных, артыкулы праваабарончай тэматыкі, інфармацыі пра сацыяльна-эканамічны стан рэгіёна і шмат іншага.

*Барыс ВЫРВІЧ.*

## ОТОВСЮДУ ПОНЕМНОГУ

**В Беларуси планируется очередное значительное сокращение госаппарата. А.Лукашенко считает, что в стране можно еще вдвое сократить государственный аппарат и значительно поднять исполнительскую дисциплину.**

**Проект закона *"О борьбе с коррупцией"* выносится на общественное обсуждение в Беларуси. Проект документа определяет механизмы предупреждения коррупции, в том числе ограничения, устанавливаемые для должностных и приравненных к ним лиц, регулирует порядок декларирования доходов и имущества таких лиц, закрепляет меры по противодействию коррупции.**

**Завершено расследование уголовного дела в отношении бывшего генерального директора ОАО «Кричевцементношифер». Ему предъявлено обвинение в совершении коррупционных преступлений. Следствием установлено, что, действуя из корыстной заинтересованности с целью личного обогащения, он использовал свои служебные полномочия и давал незаконные указания руководителям структурных подразделений организовывать на постоянной основе сбор и передачу ему денег из премиальных выплат работников ОАО. Он был задержан правоохранителями в середине сентября 2013 г. в своем служебном кабинете при получении Br10 млн. и находится под стражей. Материалы уголовного дела переданы в прокуратуру для принятия решения о направлении в суд. Бывшему гендиректору грозит до 12 лет лишения свободы с конфискацией имущества.**

*Подготовил*
*Антон ДУБОЛОМОВ.*

# Чаму бялынічане не хочуць працаваць?

У бялыніцкім цэнтры занятасці насельніцтва існуе прапанова вялікай колькасці незанятых вакансій па розных спецыяльнасцях. Аднак бялынічане на гэтыя працоўныя месцы ўладкоўвацца чамусьці не вельмі спяшаюцца.

Між тым спецыялісты адзначаюць, што ў Бялыніцкім раёне існуе вялікі працоўны рэсурс, які незадзейнічаны ў грамадскім сектары эканомікі раёна. Па ацэнках спецыялістаў з камітэта эканомікі Магілёўскага аблвыканкама, без усялякіх пытанняў дадаткова прыцягнуць у эканоміку Бялыніцкага раёна можна каля васьмісот чалавек, аднак людзі сюды ісці працаваць чамусьці не вельмі жадаюць. Паўсюдна ў раёне патрабуюцца прадстаўнікі разнастайных рабочых спецыяльнасцей, спецыялісты ў галіне сельскай гаспадаркі, сацыяльнай сферы, але шматлікія вакансіі застаюцца не занятымі.

Нашы слаўныя бялыніцкія ўлады часцяком вельмі здзіўляюцца,чаму ж так адбываецца, чаму фармальна не працуючыя людзі не хочуць працаваць у грамадскім сектары эканомікі раёна. Шчыра кажучы, мне нават смешна робіцца, - дарослыя дзядзі і цёці, а быццам бы не разумеюць элементарнага, - плаціць трэба лепш, тады і працаўнікі адразу знойдуцца.

Для прыкладу, па стане на 4 жніўня 2014 г. на інтэрнэт-сайце Міністэрства працы і сацыяльнай абароны Рэспублікі Беларусь паведамляецца, што ў Бялыніцкім раёне маецца 45 вольных вакансій на якія патрабуюцца 86 чалавек. Здаецца, - ідзі і працуй, што яшчэ трэба для поўнага шчасця, але чаргі жадаючых уладкавацца на гэтыя працоўныя месцы не назіраецца.

Усе пытанні адразу ж здымаюцца пасля таго, як паглядзіш, колькі ж бялыніцкія прадпрыемствы і арганізацыі абяцаюць плаціць людзям за іх працу. Дык вось, шаноўныя чытачы, на заробак, большы за 3 мільёны рублёў, могуць разлічваць толькі 2 чалавекі – кіроўцу аўтамабіля ў аўтапарку №7 абяцаюць плаціць тры з паловай мільёны рублёў і эканамісту ў цэнтры занятасці 3 200 000 рублёў.

Яшчэ адзінаццаць чалавек могуць спадзявацца на заробак у памеры, перавышаючым два мільёны рублёў – адпаведныя вакансіі ёсць у Бялыніцкім райвыканкаме, тым жа цэнтры занятасці, жылкамгасе, доме-інтэрнаце для састарэлых і інвалідаў, АТП-7.

Ну а 73 шчаслівыя бялынічане могуць уладкавацца на працоўныя месцы з заробкам да двух мільёнаў рублёў уключна, менавіта такія вакансіі прапануюць абсалютная большасць бялыніцкіх прадпрыемстваў і арганізацый. У тым ліку і такія “флагманы”, як ПМК-241, раённы вузел сувязі, ДЭУ-74, Бялыніцкая аўтакалона і г. д. Застаецца толькі здагадвацца, чаму гэта не ламануліся туды на працу стройнымі шэрагамі радасныя жыхары нашага раёна (прабачце, паважаныя чытачы, гэта такі ў мяне “чорны” гумар).

Як можна пражыць чалавеку, атрымліваючы заробак у 2 млн. рублёў і маючы пры гэтым на ўтрыманні дзяцей, ведаюць толькі нашыя мудрыя статыстыкі, якія вызначылі бюджэт пражытачнага мінімума з 1 жніўня ў памеры 1 343 420 руб. Ну, магчыма, яшчэ і нашы слаўныя чыноўнікі, якія здзіўляюцца, чаму ж людзі не хочуць працаваць на такой “шыкоўнай” працы. Праўда, дзетак сваіх любімых і ўнучыкаў яны працаўладкоўваюць чамусьці ў зусім іншыя месцы…

Застаецца нагадаць паважаным чытачам, што, згодна дадзеных мудрых статыстыкаў, сярэдні заробак у чэрвені ў нашай краіне быў у памеры 6 198 540 рублёў.

А жыхары ж Бялынiччыны таксама людзі і таксама жывуць у квітнеючай краіне пад назвай Беларусь. Ці не так?

*Іван БАРЫСАЎ.*

# Лінія фронту

## Аб пустых «працоўных» паездках



***У апошнія два месяцы Аляксандр Лукашэнка здзейсніў шэраг працоўных паездак па сельскагаспадарчых рэгіёнах краіны. 25 чэрвеня ён наведаў сельгаспрадпрыемствы Чачэрскага раёна Гомельскай вобласці, 7 ліпеня — сыраробчы завод ТАА “Бабуліна крынка” ў Бялынічах Магілёўскай вобласці, а 25 і 29 ліпеня пабываў у Мінскім раёне.***

З яго словаў, праехаў ён яшчэ па палях дзесьці на стыку Магілёўскай і Віцебскай абласцей, верагодна, пры наведванні роднай Александрыі ў час правядзення там 6 ліпеня свята “Купалля”.

Гэтыя працоўныя паездкі кіраўніка краіны, у адрозненні ад ранейшых падобных паездак, не атрымалі такога шырокага асвятлення ў разнастайных дзяржаўных СМІ.

Пры ўсім жаданні паказаць сваю “прыткасць” журналісты дзяржаўных СМІ так і не змаглі прыпаднесці ў прыгожым ракурсе ні вынікі, ні эфектыўнасць гэтых паездак беларускім гледачам, слухачам і чытачам.

Бо, відаць, у сто першы раз, як заезжаная кружэлка, прагучалі словы кіраўніка аб неабходнасці навядзення парадку на зямлі і паспяховым правядзенні ўборачнай кампаніі зерневых, аб барацьбе з карупцыяй, аб крэдытах для сельгаспрадпрыемстваў, аб ратацыі кадраў…

Скептычна аднесліся, як было бачна з экрана тэлевізара, і прысутныя побач з ім у паездках да патрабаванняў, выказаных у адрас Міністэрства



сельскай гаспадаркі, урада,старшыняў аблвыканкамаў аб прыняцці мераў па нарошчванні да першага квартала 2015 года вытворчасці свініны да таго ўзроўню, які быў у Беларусі да ўспышкі афрыканскай чумы свіней.

І крыху анекдатычна прагучала ў Чачэрскім раёне прапанова кіраўніка краіны аб дырэктыўным падмацаванні неабходнасці захавання тэхналогій па вытворчасці мяса і малака.

Прагучаўшыя ж новыя прапановы А.Лукашэнкі, якія маглі бы даць штуршок да рэфармавання сельскай гаспадаркі Беларусі, відаць, так і засталіся па розных прычынах незаўважанымі ягонымі паплечнікамі.

Так, засталося па-за ўвагай чыноўнікаў і не атрымала больш шырокага асвятленя ў журналісцкім асяродку тэма прадастаўлення сельгасвытворцам права на свабоду ў пытанні рэалізацыі сваёй прадукцыі. А таксама заява аб прадастаўленні ў якасці эксперымента права вытворцам малака ў Магілёўскай вобласці на самастойнае вызначэнне коштаў і пакупнікоў на сваю прадукцыю.

*«Давайте договоримся: через неделю в Могилевской области в качестве эксперимента вводится свободное ценообразование и доступ производителя к потребителю молока»,* - адрэагаваў А.Лукашэнка на зварот дырэктара "Бабулінай крынкі" аб перадачы гэтаму ТАА ўсёй сыравіннай малочнай базы вобласці. Эксперымент, па яго словах, дазволіць сельгасвытворцам свабодна і без дыктату з боку аблвыканкама вырашаць, якому перапрацоўшчыку і на якіх умовах прадаваць малако. Тут жа Міністэрству сельскай гаспадаркі было дадзена даручэнне па вывучэнню гэтага вопыту дзеля магчымага прымянення яго і ў іншых рэгіёнах.

З часу тых размоваў прайшоў ужо не адзін тыдзень, а ў СМІ так і не з'явілася інфармацыя аб выніках выканання чынавенствам даручэнняў кіраўнка краіны.

Як ужо сталася традыцыяй, беларускія чыноўнікі напружваюцца ў такіх выпадках толькі для таго, каб паказушна падрыхтаваць месца, куды будзе ляжаць шлях чарговай "працоўнай" паездкі А.Лукашэнкі. Усё астатняе ператвараецца ў пустую гаварыльню "на тэлевізар".

Падобным да апошніх заяваў і даручэнняў склаўся лёс і ўсіх ранейшых яго патрабаванняў аб навядзенні парадку ў аграпрамысловым комплексе. Як, напрыклад, аб чакаемай у бліжэйшы час маштабнай праверцы аграрнага сектару, у які за апошнія дзве з паловай пяцігодкі ўкладзена больш за 50 млрд. долараў. Такая заява прагучала яшчэ 22 кастрычніка 2013 года падчас кадравых прызначэняў. З



тае пары прайшло ўжо больш за дзевяць месяцаў, а праца ў гэтым накіруну нават не распачата.

У адным са сваіх ранейшых артыкулаў на гэтую тэму - *"Аб мільярдах, аграгарадках і сацыяльных стандартах"* ад 28 лістапада 2013 г. - я ўжо выказваў сваё меркаванне аб якасці і эфектыўнасці ўкладання фінансавых сродкаў у аграпрамысловы сектар краіны на прыкладзе ААТ "Новая Друць" Бялыніцкага раёна Магілёўскай вобласці. І, нават, перадаў кіраўніцтву краіны прапанову працаўнікоў гэтага сельгасрадпрыемства - распачаць такую праверку з "Новай Друці".

У час наведвання Лукашэнкам 7 ліпеня 2014 г. Бялынічаў, магілёўскае абласное кіраўніцтва непакоілася, што раптам і гэтая гаспападарка будзе ўключана ў маршрут паездкі кіраўніка краіны. І, на ўсялякі выпадак, рыхтавалася да гэтага. Уздыхнулася ім з палёгкай толькі тады, калі верталет кіраўніка краіны ўзяў іншы накірунак.

Разважаючы аб праблемах у аграпрамысловым комплексе краіны, аб эфектыўнасці шматмільярдных фінансавых укладанняў дзяржавы ў гэтую галіну, сёння я імкнуся закрануць яшчэ і пытанне аб "карысці" вось такіх "працоўных" паездак для нашай дзяржавы…

Бо ў працэсах падрыхтоўкі, абслугоўвання паездак у складзе дэлегацый звычайна задзейнічаны тысячы і тысячы людзей, расходуюцца велізарныя фінансавыя сродкі. Для "світы", для аховы, для супрацоўнікаў СМІ выдзяляеца неабходны транспарт, на які расходуюцца тоны паліва, якога так не хапае ў час уборачнай кампаніі. Для стварэння "карцінкі" у час прыезда дэлегацый, для правядзення рэпетыцый ад працы адрываюцца супрацоўнікі сельгаспрадпрыемстваў, сельскагаспадарчая тэхніка, не кажучы ўжо пра тое, што і прысутныя чыноўнікі ў такія дні не выконваюць сваіх прамых працоўных абавязкаў.

А што ж у выніку?

А ў выніку - ні адно распараджэнне, дадзенае кіраўнікам краіны ў час такіх паездак, не выконваецца, досвед лепшых, "узорных" прадпрыемстваў на іншыя гаспадаркі краіны не распаўсюджваецца. Усё робіцца толькі для таго, каб стварыць прыгожую карцінку для здымак на камеру, быццам бы сельская гаспадарка развіваецца эфектыўна, а сяляне жывуць шчасліва і заможна.

Ні аднаго разу, ні з вуснаў А.Лукашэнкі, ні з вуснаў яго паплечнікаў, не прагучалі словы заклапочанасці аб узроўні жыцця вяскоўцаў, аб стане сацыяльнай інфраструктуры на сяле, аб тым, як выконваюцца сацыяльныя стандарты, прыдуманыя імі ж, і чаму на сяле не жадаюць заставацца маладыя спецыялісты.

Зрабіўшы чарговае турнэ па краіне за дзяржаўны кошт, чыноўнікі раз'язджаюцца па сваіх добраўпарадкаваных прэстыжных кватэрах або загарадных дамах, тут жа забыўшыся аб мэтах такіх паездак, забыўшыся аб тым, дзеля чаго яны прызначаны на дзяржаўныя пасады. Яны жывуць сваім



сваім жыццём.

Іх не хвалюе тое, што ў чарговай вёсцы зачыняецца школа, установа культуры,паштовае аддзяленне, што вяскоўцам прыходзіцца ездзіць за сваімі заробкамі ці пенсіямі за 20 км ад месца пражывання, або выстойваць гадзінныя чэргі.

Іх нават не цікавіць, што ў апошнія гады ў сельскіх населеных пунктах усё часцей здараюцца перабоі з забяспячэннем электраэнэргіяй. Як, да прыкладу, у тым жа Бялыніцкім раёне, які наведаў Лукашэнка 7 ліпеня, за два летніх месяцы 2014 года кожны тыдзень здараліся адключэнні ў шматлікіх населеных пунктах раёна. Вяскоўцы кожны тыдзень гадзінамі заставаліся без электрычнага асвятлення,не маглі карыстацца халадзільнікамі, тэлевізарамі... і вярталіся да дзедаўскага спосабу асвятлення свайго жылля - лучынамі. Без электрычнасці заставаліся і вытворчыя аб’екты. Мясцовым энэргетыкам перашкаджаюць забяспечыць пастаянную падачу электраэнэргіі то вецер, то дажджы,то высокая тэмпература паветра. І гэта ўлетку. А што ж будзе ўзімку? І гэта праблема не толькі Бялыніцкага раёна.

У час заканчэння працы над гэтым артыкулам, даведаўшыся са СМІ, што кіраўнік краіны зноўку, 1 жніўня, наведае Мінскі раён, я паспрабаваў спрагназаваць - аб чым будзе ісці гаворка ў час гэтай паездкі... І ўгадаў. У сто другі раз размовы зноўку абмежаваліся пытаннямі наваядзення парадку ў выкарыстанні зямлі і неабходнасці давядзення якасці камбайнаў да ўзроўню лепшых замежных аналагаў.

Нажаль, зноўку забыліся аб тых, хто будзе працаваць на гэтай зямлі і кіраваць новымі камбайнамі.

З такімі адносінамі да вяскоўцаў праблема кадраў на сяле з кожным годам будзе толькі абвастрацца. А без кадраў не будзе і парадку на зямлі.

Можа, варта задумацца над гэтым пытаннем і перастаць упустую раскатваць па краіне?

*Рыгор КАСТУСЁЎ,*
намеснік старшыні Партыі “БНФ”.

# Пра беларускія джынсы

**Шмат для каго з прыватных прадпрымальнікаў патрабаванне мець на прывезеныя з Расеі тавары сэртыфікаты якасці, якое толькі што пачало дзейнічаць, азначае банкруцтва. Асабліва цяжкімі могуць быць наступствы гэтага для жыхароў невялікіх гарадоў. Знайсці іншы занятак у райцэнтры дужа цяжка. Калі ў вялікіх гарадах прадпрымальнікі ўсё ж наважваюцца на акцыі пратэсту, то ў іхных калегаў з глыбінкі абурэнне не выходзіць за межы гандлёвых павільёнаў. Якой бачыцца будучыня прыватнага гандлю ў памежных з Расіяй Клімавічах?**

**У райцэнтры з пятнаццацітысячным насельніцтвам буйных гандлёвых дамоў няма. Невялікія раскіданыя ў цэнтральнай частцы горада. Пакупнікоў у павільёнах няшмат. Настрой у гандляроў таварамі лёгкай прамысловасці пануры. Адзенне яны возяць пераважна з блізкай Расіі. Да мяжы - трыццаць кіламетраў. Думкі пра сэртыфікацыю тавару ў іх розныя, але супадаюць у адным: іх бізнэс - на мяжы банкруцтва.**

**«Можа, улада хоча такім чынам узняць беларускія прадпрыемствы. А яшчэ каб не вывозілася і валюта. Альбо наогул хочуць нас як канкурэнтаў знішчыць. Гэта ўсё адаб’ецца на пакупніках. Раней яны маглі купіць і таннейшы, і даражэйшы тавар. Цяпер жа выбару ў іх не будзе», - мяркуе адна з клімавіцкіх прадпрымальніц. Яна спрабуе гандляваць беларускімі таварамі, каб захаваць бізнэс. Пра перспектывы кажа: «Зразумела, выручка ад гандлю беларускім знізіцца. Калі мы будзем закупляць беларускі тавар, то цана, вядома ж, вырасце. І асартымэнт знізіцца. Вось у асартыменце ў нас джынсы ёсць, - даводзіць бізнэсоўка, - а беларускія вытворцы джынсавага адзення не выпускаюць. Я наогул не ведаю такіх беларускіх фірм, адны толькі тыя, якія выпрабляюць наш беларускі тэкстыль - сукенкі, спадніцы, пінжакі, нагавіцы».**

**Атрымаць неабходную дакументацыю на тавары ў Расіі цяжка, дый дорага, кажуць клімавіцкія гандляры. Некаторыя не хаваюць, што паволі будуць згортваць бізнэс, калі не знойдуць іншых кірункаў для яго развіцця. Адзін з такіх заўважае: «Сэртыфікаты ж грошы каштуюць. Гэта толькі пагоршыць сітуацыю. Падаражэе тавар ад 20 да 70 працэнтаў адразу. Але ж самая галоўная праблема для нас усіх - гэта жабрацкае насельніцтва. І я перспектыў паляпшэння сітуацыі не бачу».**

**Ёсць сярод клімавіцкіх прадпрымальнікаў і такія, хто лічыць патрабаванне мець дакументы аб сэртыфікацыі тавару добрай задумай. На іхнюю думку, пакупнік будзе ўпэўнены, што набывае якасны тавар: «Няхай у нас тавар будзе і даражэйшы, але якасць будзе адпавядаць. Ёсць жа такая прымаўка: «Я не настолькі багаты, каб купляць танныя рэчы».**

**Наведнікі гандлёвых павільёнаў прызнаюцца, што не гатовыя набываць толькі беларускае. Выбару няма, ды яно й дарагое. На іх думку, сертыфікацыю задумалі, каб прывучыць беларусаў насіць беларускае: «Наша беларускае мала купляецца, таму і папрасілі зрабіць сэртыфікацыю. А бальшыня ж людзей носіць прывазное і тое, што таннейшае».**

**Некаторыя пакупнікі ўсё ж спадзяюцца, што некалі надыдзе час, калі беларускае адзенне стане больш разнастайным і недарагім. «Вось як пачнуць усе зачыняцца, - кажа адна з такіх пакупніц, - і асартымент тавару тады стане шырэйшы.Тады будзем хадзіць і купляць толькі беларускае».**

**Суразмоўніца, аднак, не ўдакладніла, калі чаканае ёю стане рэальнасцю.**

*Падрыхтаваў*
*Міхась БАРАЗНА.*
Паводле svaboda.org



# О реформе, коррупции и кадрах

## НОВОЕ – ЭТО ДАВНО ЗАБЫТОЕ СТАРОЕ

Готовясь к очередным президентским выборам 2015 года и понимая, что за 20 лет пребывания у власти у него так и не получилось создать эффективную систему управления государством, позволяющую говорить о Беларуси как о высокоразвитой европейской стране, А.Лукашенко недавно инициировал принятие ряда законодательных актов, которые, по его мнению, должны поднять ему авторитет в глазах народа как реформатора, борца с коррупцией и засильем чиновников. В связи с этим 17 июля этого года он подписал четыре Указа, касающиеся новой аграрной реформы.

31 июля на совещании с силовиками А. Лукашенко потребовал в кратчайший срок подготовить законопроект о борьбе с коррупцией и вынести его на всенародное обсуждение. 11 августа на совещании по новым кадровым назначениям АГ заявил, что *«мы можем ещё вдвое сократить государственный аппарат, подняв исполнительскую дисциплину и убрав от государственного аппарата те функции, которые ему не свойственны и которые просто вредны»*. 12 августа глава государства заговорил о необходимости принятия нового указа, позволяющего укрепить исполнительскую дисциплину кадров всех уровней.

Напомним нашим читателям, что летом 1994 год, будучи кандидатом в президенты, А. Лукашенко обещал покончить с коррупцией, вдвое сократить чиновничий аппарат и путём реформ «запустить заводы».

## О ФУНКЦИЯХ, КОТОРЫЕ НЕСВОЙСТВЕННЫ И ВРЕДНЫ

Наверное, большинство наших читателей согласятся, что самой политизированной отраслью белорусской экономической модели «от Лукашенко» является сельское хозяйство. Львиная доля всех совещаний и заседаний, с закреплением различных полномочных лиц, президент проводит по вопросам сельскохозяйственного производства и сопряжённых с ним отраслей. За период правления А. Лукашенко уже разрабатывались, утверждались и «реализовывались» несколько программ по совершенствованию, реформированию и возрождению АПК. В АПК вложены огромные по меркам Беларуси средства - более 60 млрд. долларов США в эквиваленте. А в результате - тупик и разговоры о необходимости очередной реформы по сценарию сверху.

Возникает вполне логичный вопрос: почему так происходит? Независимые эксперты и журналисты негосударственных СМИ давно и неоднократно писали о причинах такого положения. По нашему мнению, основная причина в том, что государственные (включая президента, - *автор*) и хозяйственно-управленческие структуры взяли на себя несвойственные им функции непосредственного управления агропромышленным производством и сбытом, обеспечения предприятий и организаций бюджетными и централизованными финансовыми и материальными ресурсами, организации проведения массовых сельскохозяйственных работ (сев, заготовка кормов, уборка и т.д.), закупа произведенной продукции по государственному заказу и др. Это, в свою очередь, требует централизованного ценообразования, финансирования и кредитования хозяйственной деятельности, налогообложения и т.д. и т.п. Президент, правительство в составе центральных министерств и ведомств, облисполкомы, райисполкомы вместо выполнения функций стратегического руководства экономикой на базе целевых программ, выработки и проведения долгосрочной экономической политики, превратились в единого крупного хозяйственника, взвалившего на себя обязанности решать за субъекты хозяйствования всю гамму хозяйственных вопросов.

Получается так, что государство стало само себе задавать производственные цели и задачи, и само же их решать. По этой причине возникла необходимость значительно расширить чиновничий аппарат, создать множество различных контролирующих и правоохранительных органов, которые порою дублируют функции друг друга и даже конкурируют между собою. А непосредственные субъекты хозяйствования вынуждены в своём большинстве лишь исполнять предписания государственных органов и фактически оказались отстранёнными от самостоятельного решения своих насущных проблем. Лишённые самостоятельности в принятии решений, товаропроизводители лишились и ответственности за состояние дел и конечные результаты. В итоге - застой и стагнация.

В качестве примера приведу ситуацию, которая сложилась вокруг нового молочно-товарного комплекса в СПК «Звезда-агро» и Кричевского района, в целом.

Осенью 2013 года распоряжением председателя Могилёвского облисполкома П. Рудника ответственным за работу вышеназванного комплекса и хозяйства назначен лично председатель Кричевского райисполкома В. Сысоев. Если верить тогдашним публикациям и фотографиям в газете «Кричевская жизнь», он регулярно бывал в хозяйстве и давал ЦУ. Но специалисты знают, что по науке и практике государство - наихудший собственник и управленец. Не может объективно справиться оно со всей совокупностью многоплановых проблем АПК.

Совершенно закономерно, что В. Сысоев полностью провалил это поручение П. Рудника и ещё больше усугубил ситуацию в АПК района. Не выиграла от этого и область. Об этом более чем убедительно 12

августа этого года рассказала «Сельская газета» в своём мониторинге «Молоко: надоить – надоили. А сколько продали?», написав: *«До сих пор не заполнены все места на комплексах по выращиванию и откорму КРС. На 1 мая там содержалось 325,5 тысячи животных - 98% их производственных мощностей. При этом пять регионов, кроме Брестщины, сократили численность КРС по сравнению с прошлым годом. Больше всего позиции сдали сельхозпредприятия Могилёвщины. В СПК «Звезда-агро» Кричевского района, например, на 1 мая насчитывалось только 68% животных к прошлогоднему уровню»* (заметим, что в прошлом году из 4000 тысяч скотомест на комплексе было заполнено только 2500, - *автор*).

В этом же номере газета опубликовала на полном развороте таблицы с результатами работы областей, районов, птицефабрик, комплексов по выращиванию и откорму КРС и свиней в РБ за первое полугодие 2014 года в области животноводства. Так вот, в таблице, характеризующей производство молока и мяса в разрезе районов и областей, Кричевский находится на последнем 118 месте.

## БЕСХОЗЯЙСТВЕННОСТЬ И КОРРУПЦИЯ

Такое положение дел создало благоприятные условия для бесхозяйственности, бесконтрольности и вседозволенности кадров, как в самих хозяйствах, так и во властных структурах. Стало одной из основных причин преступлений экономического и коррупционного характера в сфере АПК. Получается так, что, принимая решения и добиваясь его выполнения, чиновники подбирают кадры руководителей и специалистов, которые преданы «хозяину»,быстренько берут под козырёк и, не задавая лишних вопросов, делают, что им говорят. Результаты проверок хозяйств Кричевского, Климовичского, Краснопольского,Чериковского, да и других районов Могилёвской области различными контролирующими и правоохранительными органами выявляют многочисленные нарушения в хозяйственной и финансовой деятельности предприятий, появившиеся в результате того, что их руководители выполняли указания председателей райисполкомов, их заместителей и т.д. для создания видимости хороших результатов в работе. Они шли на нарушения сознательно, зная, что в случае чего их прикроют те, кто давал эти указания. Кто получал незаконные премии, делал карьеру и т.д.

**Так, например, в 2002 году ДФР КГК Кричевского района выявил масштабные приписки в хозяйствах Кричевского района, которые делались по указанию тогдашнего председателя райисполкома И. Пракопова. Но дело «замяли», сделав крайней заместителя начальника райсельхозпрода Н. Деменцову. В 2006 году дело о приписках в СПК «Бель» Кричевского района даже дошло до суда, но тогдашний председатель СПК, бывший депутат «палаты» и член местного исполкома Н.Сапранецкий отделался условным сроком, а чиновники райисполкома вообще «вышли сухими из воды».**

**Уже нынешний председатель Кричевского райисполкома В.Сысоев «привёз» из Горецкого района С. Гудыно, сделав директором КСУП «Добрость». В результате тот два года творил в хозяйстве, что хотел, несмотря на многочисленные жалобы и заявления работников, критические выступления в газете «Вольный город». Дело сдвинулось с мёртвой точки лишь тогда, когда директор занялся рукоприкладством, был задержан милицией, и началось следствие.**

**Параллельно провели проверку финансово-хозяйственной деятельности предприятия, в результате которой выявились многочисленные нарушения и возбуждено два уголовных дела, по которым сейчас идёт следствие. А в настоящее время вот уже три месяца КСУП «Добрость» руководит 70-летний подполковник в отставке П. Рыбчинский, который, будучи руководителем, довёл до ликвидации два сельхозпредприятия - СПК «Соцшлях» и УКСП «Кричевское». Есть уверенность, что не лучшая картина будет выявлена в случае объективной проверки финансово-хозяйственной деятельности СПК «Звезда-агро», где работает руководителем ещё один «кадр» от В. Сысоева - Н. Широков, которого он «привёз» в район из соседнего Мстиславля.**

**Есть аналогичные примеры и по другим районам. Так, в 2010 г., уже бывший председатель Краснопольского райисполкома А. Ветошкин на должность директора УКСП «Краснопольский» назначил родственника своей жены некоего И. Лютикова, который до этого нигде не работал и жил в Черикове. «Поработав» в должности чуть меньше года, И. Лютиков ухитрялся по нескольку дней подряд не появляться на работе без уважительных причин. Игнорировал предписания местной прокуратуры. Его уволили только тогда, когда из кассы УКСП было украдено около 30 млн. рублей из-за отсутствия охраны. Воры так и не были найдены.**

**Кстати, Краснопольский район только на один пункт опережает Кричевский в республиканской сводке по производству молока и мяса.**

## ВЫВОДЫ

Сложившаяся на сегодняшний день в АПК (и не только) Беларуси административно-командная система управления по своей сути продуцирует бесконтрольность, бесхозяйственность и коррупцию, предоставляя работающим в ней чиновникам, руководителям и специалистам предприятий и организаций соответствующие возможности. Как бы банально это не звучало, но вышеназванные проблемы можно многократно уменьшить, а жизнь большинства населения значительно улучшить только благодаря свободе и ответственности каждого из граждан страны за будущее Беларуси. И первое, с чего следует начать - восстановить Конституцию 1994 года, в которой чётко разграничены полномочия властей. Парламент должен издавать законы, исполнительная власть их исполнять, а судебная власть быть независимым судом, где правит верховенство закона.

*Артём СЕМЁНОВ.*

# Преступление и чуть-чуть наказания

*«Нельзя дать человеку власть над другими людьми, не искушая его злоупотребить этой властью. Искушение тем сильнее, чем больше у него власти, и мало кто способен устоять».*
Закон коррупции лорда Эктона.

Коррупция считается одной из самых опасных для современного общества социальных болезней, поскольку разрушает его основные «несущие конструкции» - экономику, власть и дух народа. В Конвенции Организации Объединенных Наций против коррупции, принятой Генеральной Ассамблеей ООН 31 октября 2003 г., подчёркивается, что коррупция представляет собой угрозу для стабильности и безопасности общества, она подрывает демократические институты и ценности, этические ценности и справедливость, результате чего наносит ущерб устойчивому развитию и правопорядку. Этимологически слово «***коррупция***» в переводе с латинского языка означает порчу, упадок, подкуп, обольщение, совращение, притон. В юриспруденции под коррупцией понимается использование служащими государственного аппарата, должностными лицами государственных предприятий, учреждений, организаций своего служебного положения и связанных с ним возможностей для противоправного получения ими, их близкими, а также третьими лицами в любой форме материальных и иных благ, льгот и преимуществ, а также противоправное предоставление этим лицам благ, льгот и преимуществ.

Недавно Шклов с удивлением узнал, что всесильный Коноплев, еще недавно «руливший» Палатой Представителей всея синеокой, сейчас является рядовым ИПэшником (индивидуальным предпринимателем) со всеми вытекающим негативными последствиями оного статуса. В коих сферах экономики предпринимательствует уважаемый Владимир Николаевич широкой публике неизвестно, а вот что замашки государственного масштаба неуемной натуре экссипикера не дают покоя, иногда свидетельствует криминальная хроника.

Ситуация банальна для высших кругов белорусских госслужащих: сам чиновник или его дитя что-то сотворили лет эдак на 10 тюремного заключения, о чем глубоко раскаиваются, но белорусская Фемида не предусматривает альтернативного наказания в виде, например, предупреждения или извинения. Тогда, как основной вариант, для исправления ситуации используются наработанные связи, запугивание потерпевших, подлог, лжесвидетельство и иной инструмент вывода преступника из-под действия Закона. Что-то похожее случилось и в судьбе В.Коноплева, когда его попросили об одолжении поучаствовать в «отмазке» сына крупного бизнесмена, по вине которого погиб человек. В этой «операции» главным решальщиком выступил заместитель генерального прокурора А.Архипов, который в коррупционном рвении за бутылку коньяка и золотой слиток в 20 г и решил судьбу преступника. В пользу, естественно,самого преступника.


*В.Коноплёв и А.Архипов в зале суда.*
Фото «НН».

Эта история оказалась настолько громкой, что ею даже возмутился Президент А.Лукашенко: 14 ноября 2013 г., принимая доклад генерального прокурора Александра Конюка, Александр Лукашенко заявил, что Архипов, будучи в должности заместителя генпрокурора, попытался было замять дело, связанное с гибелью человека в ДТП. Это ДТП произошло вечером 3 июня 2012 года в деревне Юхновка Минского района. 23-летний мотоциклист ехал по улице Южной, на закруглении дороги вправо он не справился с управлением, съехал в левый кювет и опрокинулся. Парень был пьян, и у него не было прав – он их вообще никогда не получал. 24-летняя пассажирка, жительница деревни Городище, которая ехала с ним без шлема, погибла на месте. Но чудесным образом уголовное дело в отношении мотоциклиста, по чьей вине погибла девушка, было прекращено.

"*Дружки там его втянули в эту аферу,человека убили, пьяный водитель. Неважно, какие у них там были отношения, но человек погиб. Представьте, как реагирует на это семья. С помощью власти это дело замяли. Что подумают люди, окружающие, семья? Подумают, что у нас власти нет? Где справедливость?*" (А.Лукашенко). **Если уже и Президент вопрошает таким образом, что же тогда деется в стране?**

Но справедливость восторжествовала: виновник гибели девушки в ДТП осужден и отбывает наказание; «похоронил» карьеру следователь заместитель начальника 1-го следственного отделения Минского РОСК УСК по Минской области Константин Янушко, который вел это дело; бывший заместитель генпрокурора А.Архипов **приговорен к шести годам лишения свободы с конфискацией в колонии усиленного режима (**по ч. 3 ст. 426 "Превышение



власти или служебных полномочий" и ч. 3 ст. 430 "Получение взятки" Уголовного кодекса). Он лишен звания государственного советника юстиции 3-го класса и права занимать определенные должности сроком на 5 лет. В доход государства обращено имущество Архипова - "Шкода Октавия" 2010 года выпуска и золотой слиток (20 граммов). **Пострадал и В.Коноплев, которого белорусская Фемида оштрафовала на 900 базовых величин (135 млн. рублей)** по ч. 1 ст. 406 "Недонесение о преступлении". Успел Коноплев побывать и под стражей – с 18 по 26 ноября прошлого года.

Владимир Коноплев и Александр Архипов знакомы достаточно давно. Их общие интересы обнаружились в гандболе. Коноплев возглавляет Белорусскую федерацию гандбола, а Архипов - входил в совет БФГ. Как мы знаем, Коноплев всегда находился рядом с Лукашенко, под его покровительством стал руководителем палаты Представителей; казалось бы, он должен быть государственным до мозга костей человеком. Поскольку Коноплев и Архипов шли по одному делу, значит, он знал о действиях заместителя генерального прокурора. Вместо того, чтобы остановить замгенпрокурора, может быть, предотвратить преступление, вместе с ним поглощал коньяк, полученный в виде взятки. Бывший сотрудник КГБ Ануфрий Романович считает, что Коноплев должен был получить не меньше Архипова. Слишком мягкий приговор В.Коноплеву, по мнению бывшего следователя прокуратуры Олега Волчека, может быть связан с тем, что тот «настучал» на бывшего заместителя генпрокурора. Неадекватность наказания Коноплеву за совершенное преступление отмечает ряд специалистов.

И не удивительно - все коррупционные дела, связанные с чиновниками ранга Архипова и Коноплева, рассматриваются в закрытом порядке. От кого прячутся? Что скрывают? Эксперты не сомневаются, что, как и другие чиновники, Архипов долго не посидит. Высочайшим указом будет помилован. Однако коррупционные процессы сами по себе свидетельствуют о том, из кого состоит ближайшее окружение президента. И сможет ли он навести порядок с чиновниками районного масштаба, когда «друзья детства» за стакан коньяка вносят хаос в государственное устройство?

*Пётр МИГУРСКИЙ.*

# АДУСЮЛЬ ПАКРЫХУ

## ОТОВСЮДУ ПОНЕМНОГУ

**Встречаясь в Минске с главой администрации Тамбовской области РФ Олегом Бетиным, Александр Лукашенко заявил: *«Мы готовы принять участие в модернизации ваших животноводческих комплексов. Если нужно – в строительстве агрогородков».* При этом А.Лукашенко указал на перспективы сотрудничества двух сторон в сфере АПК: *«Я предлагаю нашим ученым и научным учреждениям совместно поработать в области селекции и генетики, защиты растений, создания высокопродуктивных сортов сельхозкультур и пород животных, а также ресурсосберегающих технологий. Мы готовы оснастить ваше сельское хозяйство самой передовой сельхозтехникой, которая вам понравится».***

**С 22 июля на торговых местах рынков и с рук запрещено торговать мясными продуктами домашнего приготовления. Такой порядок определен в постановлении правительства №686. Всего в списке запрещенных к продаже товаров 39 позиций. Сюда вошли продукты домашнего приготовления из мяса и рыбы, кондитерские изделия, приготовленные в домашних условиях, вяленое и сыровяленое мясо, мясной фарш, котлеты, студень, колбасные изделия, зельцы, копченые мясные продукты, шпик соленый и копченый, рубленые мясные полуфабрикаты домашнего приготовления. Чем вызван очередной запрет, правительство не поясняет. Возможно, запрет частникам на торговлю мясом может объясняться как угрозой африканской чумы свиней, так и нехваткой сырья для мясокомбинатов. И государство таким образом вынуждает частников сдавать мясо и сало государству.**



**У Быхаве на тэрыторыі былога ваеннага аэрадрома запрацавала першая чарга сонечнай электрастанцыі. Яе з пачатку 2014 года ўзводзіць там магілёўскае ТАА «Тайкун». Пакуль уведзена ў эксплуатацыю чацвёртая частка станцыі магутнасцю ўсяго 631 кВт/г. Першапачаткова планавалася, што яна будзе выпрацоўваць 2,5 МВт электраэнергіі, але зараз вырашаецца пытанне аб павелічэнні яе магутнасці да 3,5 МВт. Кампанія «Тайкун» - лідэр па развіцці альтэрнатыўнай энергетыкі на Магілёўшчыне. Яна пабудавала некалькі ветраэлектрастанцый сумарнай магутнасцю каля 4 МВт. У Магілёўскім раёне таксама змантаваная і працуе сонечная электрастанцыя на 400 кВт.**

**Более 800 млн. бел. рублей возвращены в бюджет Могилевской области по результатам проверки деятельности Кричевского завода железобетонных изделий, проведенной областным КГК. Как установили контролеры, эти государственные средства, полученные из инновационного фонда облисполкома, израсходованы предприятием не по назначению. Были зафиксированы и другие нарушения. Завод и шесть его должностных лиц привлечены к административной ответственности.**

*Падрыхтаваў Алесь СУВОРАЎ.*

Магілёўскі ВЫБАР

Грамадска-палітычная газета. Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна. Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.

Адрас рэдакцыі: 213155, Магілёўская вобласць, Магілёўскі раён, в.Брылі, вул.Юбілейная, 6-7. Тэл. 8-0222-710451
E-mail: mikolabryl@gmail.com. Выдавец Яцкова Ала Міхайлаўна.
Наклад 299 асобнікаў. Фармат А-4. Надрукавана на ўласным абсталяванні. Падпісана ў друк 16.08.2014 г. у 10.00.